ТОЛЬКІ ТАК!

# СПРАВАВОДСТВА па-БЕЛАРУСКУ!

Студзень 2012

Тэматычны неперыядычны дадатак да газеты "Гомельскія Навінкі"




## Першы Калядны турнір па футболе Кубак "Справаводства па-беларуску!"-2011

*На фота - галоўны мэнэджэр і галоўны трэнер ФК СпБ-09*

# Першы Калядны турнір па футболе Кубак "Справаводства па-беларуску!"-2011

***24 снежня адбыўся Першы Калядны турнір па футболе Кубак "Справаводства па-беларуску!"-2011. У турніры ўдзельнічала 4 каманды, прадстаўляючыя розныя грамадзянскія ініцыятывы Гомеля. Сярод удзельнікаў была каманда грамадзянскай кампаніі "Справаводства па-беларуску!" ФК "СпБ-09", каманда кампаніі "Гавары Праўду!" (Гомель) ФК "ГП-Гомель", каманда малатыражнай газеты "Гомельскія Навінкі" ФК "ГумНо" і каманда сайта pytalnik.tk ФК "ПТК".***

Перамогу ў турніры і Кубак "Справаводства па-беларуску!"-2011 здабыў ФК "ГумНо". ФК "СпБ-09" заняў другое месца, трэцім быў ФК "ГП-Гомель".

"Гэта быў цікавы турнір, вельмі напружаны. Пераможца Кубка СпБ-2011 вызначыўся ў супрацьстаянні ФК "ГумНо" і ФК "СпБ-09". Напачатку гульня была роўнай, але ў другім тайме з-за траўмы выбыў наш лепшы гулец і ў выніку мы ўступілі з лікам 10:2. Але ФК "ГумНо" заслугоўваў перамогу – у ім былі гульцы вельмі высокага класа. Віншую іх з заслужанай перамогай." – адзначыў галоўны трэнер ФК "СпБ-09" Яўген Мароз.



***Каманда ФК "ГумНо"***

Лік у іншых гульнях турніра быў наступным: "ГП-Гомель" – "ПТК" 10:2, "ГП-Гомель" – "ГумНо" 4:9, "ПТК" – "СпБ-09" 6:12, "ГумНо" – "ПТК" 8:4. Тэхнічную перамогу атрымаў "СпБ-09" у гульні з "ГП-Гомель".

Больш за ўсё галоў забіў ФК "ГумНо" – у сярэднім 9 мячоў за гульню, ён жа меньш за ўсіх і прапусьціў – у сяРэднім 3,3 мячы за гульню. У сярэднім за адну гульню турніра забівалася 13,4 галоў. Прыз "За Самаадданасць" атрымала каманда "ПТК", што заняла апошняе месца, але паказала вельмі добрую гульню.




"Кубак "Справаводства па-беларуску!" быў праведзены з мэтай прыцягнуць увагу да беларускай мовы, а таксама наладзіць камунікацыю і сяброўскія стасункі з іншымі гомельскімі грамадзянскімі ініцыятывамі. І без перабольшвання, хочу адзначыць, што гэты мэты былі дасягнуты.

У мяне столькі добрых эмоцый ад гэтага турніра, спадзяюся, яны такія ж і ў іншых удзельнікаў. І галоўнае, гэтым Кубкам мы паказалі, што беларуская мова гэта не толькі мова перэферыі, гэта не толькі сумныя размовы не беларускамоўных вечарынах, гаротныя перажыванні і рэфлексіі на тэму аб тым аб тым, як з беларускай мовай усё дрэнна, што ўжо надакучыла ўсім, а беларуская мова – гэта перамога, барацьба, жывыя эмоцыі і гэта цікава не толькі адмыслоўцам, але і простым беларусам.



***Галкіпер каманды ФК "СпБ-09"***

Нажаль, Гомельская абласная і гарадская арганізацыі ТБМ , з якімі ў "Справаводства па-беларуску!" маюцца разыходжанні ў тым, як зрабіць беларускую мову дамінуючай ў Беларусі, афіцыйна адмовіліся ад удзелу ў Кубку. Прыкра, што людзі пазбягаюць магчымасці перамагчы ў сумленнай і адкрытай барацьбе. Хоць, магчыма, гомельскім ТБМ больш па душы хакей, бо гэта зараз дзяржаўны спорт." – адзначыў галоўны мэнэджэр ФК "СпБ-09", каардынатар кампаніі "Справаводства па-беларуску!" Ігар Случак.

## Першы Калядны турнір па футболе Кубак “Справаводства па-беларуску!”-2011. Працяг.



Плануецца, што Кубак “Справаводства па-беларуску!” стане штогадовым, а склад яго ўдзельнікаў яшчэ больш пашырыцца. Ужо зараз паступілі дзве заяўкі ад патэнцыйных ўдзельнікаў, што прадстаўляюць даволі вядомыя і прызнаныя аб’яднанні.

***Фота***

http://www.facebook.com/profile.php?id=1552818909#!/media/set/?set=a.2854091322058.144920.1552818909&type=1

***Відэа з Кубка***

http://www.youtube.com/watch?v=aEcIukJmoG4&list=UUx9gGwNaeqciycxtSN844Ag&index=2&feature=plcp

http://www.youtube.com/watch?v=RzVKz8ciqdM&list=UUx9gGwNaeqciycxtSN844Ag&index=1&feature=plcp

*http://vk.com/#/album5812517_149143765*

## «Справаводства па-беларуску!» прапануе трансляваць рэкламу на дзвюх дзяржаўных мовах

***Грамадзянская кампанія «Справаводства па-беларуску!» звярнулася да дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу з прапановай падтрымаць змены ў артыкулы 10 і 32 закона «Аб рэкламе». Прапанаваныя змены, на думку актывістаў кампаніі, павінны забяспечыць стварэнне і трансляцыю рэкламнай прадукцыі на дзвюх дзяржаўных мовах, што дазволіць павысіць статус беларускай мовы.***

«Даследаванні паказалі, што да 70% беларусаў станоўча ўспрымаюць рэкламу на беларускай мове, а 37% беларусаў лічаць, што беларускай мовы не хапае ў рэкламе. Каля 10% беларусаў наогул дрэнна ці зусім не ведаюць рускай мовы. У гэтым выпадку чалавек можа не зразумець сэнсу рэкламы», - патлумачыў ініцыятар кампаніі «Справаводства па-беларуску!» Ігар Случак (на фота).

Ён з паплечнікамі прапануе дубляваць рэкламу на дзвюх мовах, ці, як варыянт, увесці норму – 70% рэкламы на беларускай мове. «Гэта было б добрым і цікавым рашэннем. Нарматыўнае рэгуляванне двухмоўя ў рэкламе падштурхне і павысіць канкурэнтаздольнасць. Ад гэтага ў выніку выйграюць як спажыўцы, так і беларускі бізнес», - мяркуе ініцыятар кампаніі. Ён не выключае, што дэпутаты могуць падтрымаць змены, бо зараз існуе праект закона аб рэкламе, і не будзе складаным далучыць да яго і прапановы кампаніі.

*http://spring96.org/be/news/48869*

## Канстытуцыйны суд вырашыў не правяраць суддзяў на веданне беларускай мовы

Канстытуцыйны суд Беларусі, разгледзеўшы прапанову каардынатара кампаніі "Справаводства па-беларуску!" Ігара Случака аб тым, каб заканадаўча замацаваць праверкі ведаў суддзямі дзвюх дзяржмоваў - беларускай і расійскай, не знайшоў падстаў для яе ўкаранення. У сваёй пастанове суд спаслаўся на аналіз нормаў Канстытуцыі, розных кодэксаў і законаў.

Канстытуцыйны суд стаў адзінай установай, якая разгледзела прапанову Ігара Случака. З іншых беларускіх судоў, пракуратуры і міністэрства юстыцыі, на адрас якіх актывіст накіраваў аналагічныя прапановы, прыйшлі паведамленні, што дадзенае пытанне ўрэгулявана, і ўдасканаленне працэдуры ведання суддзямі беларускай мовы не патрабуецца, перадае БелаПАН.

"*Тое, што Канстытуцыйны суд на працягу двух месяцаў вывучаў гэтае пытанне, усё ж пакідае надзею, што пытанне вырашыцца станоўча. Будзе складзены дадатковы зварот, дзе будзе прапанавана даць канкрэтны адказ на канкрэтны пытанне, паколькі ў папярэднім звароце былі ўказанні на канкрэтныя праблемы ў заканадаўстве, але яны былі абыдзены ўвагай*", - адзначыў Ігар Случак.

*http://telegraf.by/2011/04/kanstitucijni_sud_virashi_ne_pravjarac__suddzja_na_vedanne_belaruskaj_movi*

## Грамадзянская кампанія «Справаводства па-беларуску!» просіць выканкамы прадставіць інфармацыю аб мове пісьмовых зваротаў грамадзян

***Грамадзянская кампанія «Справаводства па-беларуску!» звярнулася да кіраўнікоў раённых, гарадскіх і абласных выканаўчых камітэтаў з прапановай прадставіць статыстыку адносна мовы пісьмовых зваротаў грамадзян у 2011 годзе.***

Адзін з каардынатараў кампаніі Ігар Случак тлумачыць зварот тым, што 22 студзеня ўступае ў сілу закон «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб», у якім кампанія «Справаводства па-беларуску!» дамаглася ўнясення пункта аб тым, што на пісьмовы зварот павінен даваца адказ на мове заяўніка. «Напрыканцы 2012 года будзе цікава прааналізаваць, ці вырасце колькасць беларускамоўных зваротаў за год пасля ўступлення ў сілу гэтага закона. Калі рост будзе – значыць, мы стаім на правільнай пазіцыі, мяркуючы, што праблему больш шырокага выкарыстання мовы можна вырашыць нарматыўным шляхам. Калі росту беларускамоўных зваротаў назірацца не будзе, то значыць, маюць рацыю нашы апаненты, якія мяркуюць, што прывесці беларусаў да роднай мовы можна толькі нацыянальна-культурным шляхам», - адзначае Ігар Случак.

*http://spring96.org/be/news/48781*



*Прэзідэнт Эстоніі Тоомас Хендрык Ільвес атрымаў на Каляды паштоўку ад кампаніі “Справаводства па-беларуску!”*

## На беларускамоўныя звароты трэба будзе адказваць па-беларуску

***Год таму малады жыхар Гомеля Ігар Случак, які раней быў студэнтам Гомельскага ўніверсітэта, а цяпер вывучае права ў эстонскім Тарту, распачаў персанальную кампанію «Справаводства па-беларуску».***

Такім спосабам ён спрабуе пераканаць чыноўнікаў перайсці на беларускую мову. Падводзячы вынікі сваёй кампаіі, Ігар Случак называе перамогай прынятыя змены ў закон «Аб зваротах грамадзянаў». Цяпер чыноўнікі павінны будуць адказваць на той мове, на якой прыйшоў зварот у дзяржаўную ўстанову.

- Былі прыняты папраўкі ў закон, якія забяспечваюць адказ на зварот на мове звароту. Мы дамагаліся, каб нам давалі адказы на беларускамоўныя звароты на беларускай мове. Былі такія раёны, райвыканкамы, арганізацыі, якія прынцыпова не хацелі ўжываць беларускую мову. Мы сотні зваротаў напісалі ў розныя інстанцыі, у парламент, у міністэрствы. І вось маем вынік.

Па маёй задумцы, кажа Ігар Случак, чыноўнік павінен адказваць на адной з дзяржаўных моў Беларусі, але дэпутаты напісалі проста: «Адказваць на мове звароту» (Артыкул 18 Закона). Таму, тлумачыць Ігар, можна будзе звяртацца на любой мове, і чыноўнік павінен будзе на ёй адказаць.

Прапраўка ў закон уступіць у дзеянне 22 студзеня.

*Васіль Крокава, Радыё Рацыя.*

МОВА
НАЦЫЯ
КУЛЬТУРА
СТАБІЛЬНАСЦЬ
ЭКАНАМІЧНЫКРЫЗІС
ПАЙСЦІВІНІШЧАВЫПІЦЬЦІШТО
ЯНЕПАЛІТЫЧНЫМЯНЕГЭТАНЕХВАЛЮЕ

**Расстаў прыярытэты правільна!**
**Падтрымай змены ў закон “Аб мовах”!**

© Vasyl' Babych, 2011

## Парламентарыі вырашылі падтрымаць другую прапанову Ігара Случака

***Гамельчук, студэнт Тартаўскага ўніверсітэта Ігар Случак, які пазалетась пачаў персанальную кампанію «Справаводства па-беларуску», спадзяецца на чарговую перамогу. Летась парламент прыняў папраўку ў закон «Аб зваротах грамадзян», якая абавязала чыноўнікаў адказваць на той мове, на якой прыйшоў зварот у дзяржаўную ўстанову.***

Нядаўна Случак атрымаў новы ліст з парламента, у якім паведамляецца, што чарговая яго прапанова – пра змены ў закон «Аб абароне правоў спажыўцоў» - таксама прынята да разгляду адмысловай парламенцкай камісіяй.

- Прыйшоў адказ ад дэпутата Шацько з парламента. У нас было таксама пытанне, каб у закон «Аб абароне правоў спажыўцоў» былі ўнесены змены, якія павінны забяспечыць двухмоўнае напісанне інфармацыі на таварах. І гэтыя змены будуць разглядацца ў 2012 годзе. Закон хочуць каардынальна перагледзець. І нашы прапановы ўжо ўнесены на разгляд гэтай працоўнай групы.

Ігар Случак на гэтым не збіраецца спыняцца. Хлопец лічыць, што беларускую мову трэба ўздымаць у дзяржаве на больш высокі ўзровень і што менавіта чыноўнікі павінны забяспечыць беларускай мове дзяржаўную падтрымку.

*Васіль Кроква, Радыё Рацыя.*












Тэматычны неперыядычны дадатак да газеты "Гомельскія Навінкі"
*“Справаводства па-Беларуску!”*
Заснавальнік: *Францыск Піцерскі*
Галоўны рэдактар: *Алесь Пыхаў*
Карэктар: *Мікола Хмызняк*
Спецыяліст па сувязях з грамадскасцю: *Пеця Якабычна*
246050, г. Гомель, вул. Пуліхава, 17, рэдакцыя "Гомельскія Навінкі - Справаводства па-Беларуску”

e-mail: GNavinki@gmail.com

Уладальнікі выдання ***M&S Media***

Надрукавана на Папяровай фабрыцы “ГумНо”, г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 14.
Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

